# Залатая палітра

## Юныя мастакі са Слуцка пакараюць самыя высокія вяршыні

Колер, лінія, кампазіцыя... Гэтымі паняццямі Гунэфа Фёдараўна Мацюшэнкава жыве штодзённа. Сказаць, што яна вучыць дзяцей маляваць, знаходзіць патрэбныя фарбы, каб адлюстраваць у работах навакольны свет — значыць не сказаць амаль нічога. Яна вучыць сваіх выхаванцаў адкрываць у сабе асобу, знаходзіць сваё "я" ў неабсяжным свеце мастацтва.

Бягучы год пачаўся для Гунэфы Фёдараўны з добрай падзеі. Яна атрымала прэмію Прэзідэнта нашай краіны за эстэтычнае выхаванне моладзі і педагагічнае майстэрства. Разам з ёй на цырымоніі ўручэння прэміі прысутнічаў адзін з лепшых яе вучняў — 13-гадовы Ілля Падалка. (у мінулым годзе ён быў Прэзідэнцкім стыпендыятам). Хлопчык падарыў А.Р.Лукашэнку адну са сваіх работ "Слуцкія матывы".

Выкладчыкі школы ведаюць: шматгадовая педагагічная праца Гунэфы Фёдараўны адзначана невыпадкова. Яна чалавек незвычайна творчы і таленавіты. Іскрынку таленту ўмее адшукаць ледзь не ў кожным сваім вучні.

Гунэфа Мацюшэнкава нарадзілася на Віцебшчыне. У Слуцк трапіла пасля заканчэння Віцебскай ВНУ. Спачатку працавала ў Бокшыцкай сельскай школе, потым — у школе № 7 Слуцка. З 1985 года выкладае кампазіцыю ў Слуцкай дзіцячай мастацкай школе. Колькі за гэты час прайшло праз яе рукі юных талентаў? Яна, напэўна, і не падлічыць.

Гунэфа Фёдараўна згодна з выказваннем вялікага знатака чалавечых душ Стэндаля: "Справа не ў тым, каб навучыцца маляваць, а ў тым, каб навучыцца думаць".

Яна імкнецца навучыць сваіх выхаванцаў думаць з першага класа мастацкай школы.

— Дзеці прыходзяць самыя розныя, — адзначае педагог. — Адны даволі слабенькія, марудлівыя, асаблівых талентаў ад прыроды ў іх не назіраецца. Такім цяжка раскрыцца ў рабоце. Але яны бываюць працалюбівымі, столькі прыкладваюць сіл і старання, што ў канчатковым выніку дабіваюцца поспехаў. А ёсць такія, што адразу паказваюць свае здольнасці. Аднак... на гэтым і спыняюцца...

З задавальненнем педагог расказвае пра свайго выхаванца Іллю Падалку. Яму ўсяго трынаццаць гадоў. Ён — хлопчык мэтанакіраваны. Першы поспех юнага мастака быў прыкметны — ён стаў адным з пераможцаў конкурсу "Фарбы зямлі", які праходзіў у Мінску. Туды ён прадаставіў цыкл сваіх работ "Сельскія матывы". Потым было прызнанне на міжнародных конкурсах, нарэшце — прэзідэнцкая стыпендыя. Гунэфа Фёдараўна адзначае, што цяпер Ілля ў сваіх работах выкарыстоўвае цікавую тэхніку (на мове мастакоў яна называецца "тэхнікай на асвятленне"), якая нарадзілася з невялікага дамашняга практыкавання. У гэтай манеры Ілля стварыў не адну цікавую работу.

Сярод таленавітых выхаванцаў Мацюшэнкавай — Зухра Міхайленка, работы якой былі адзначаны ў час міжнароднай выставы на Тайвані, Насця Чаур, Аляксандр Есіповіч, Іна Заяц. Спіс юных талентаў можна працягваць.

Асаблівая старонка ў педагагічнай дзейнасці Гунэфы Фёдараўны — ўдзел яе выхаванцаў у міжнародных выставах. Напрыклад, у 1998 годзе выхаванцы дзіцячай мастацкай школы са Слуцка ўдзельнічалі ў конкурсе дзіцячага малюнка ў Македоніі. Атрымалі "Залатую палітру і запрашэнне да ўдзелу ў пленэры. У тым жа годзе яе вучні ўдзельнічалі ў конкурсе "Радасць Еўропы" ў Югаславіі. У 1999 годзе ў Токіо работы вучняў школы былі адзначаны залатым, сярэбраным і трыма бронзавымі медалямі. Вельмі багатым на ўзнагароды быў мінулы год. У маі пяць навучэнцаў за ўдзел у конкурсе малюнка на Тайвані атрымалі бронзавы медаль, чатыры дыпломы. Тры сярэбраныя і чатыры бронзавыя ўзнагароды былі атрыманы ў міжнародным конкурсе малюнкаў у Токіо, два залатыя медалі — за ўдзел у конкурсе "Занка" (Венгрыя). Больш за 100 работ навучэнцаў, прысвечаных 2000-годдзю хрысціянства, экспануюцца ў Германіі. Калекцыі дзіцячых работ адпраўлены ў Іран і Расію. За апошнія пяць гадоў 12 навучэнцаў Гунэфы Фёдараўны атрымалі стыпендыі спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі.

— Каб зрабіць адну выдатную работу, неабходна тры, або нават і чатыры тыдні, — гаворыць Мацюшэнкава. — На заняткі да мяне дзеці прыходзяць раз у тыдзень. Каб сфарміраваць 7-8 калекцый, спатрэбіцца паўгода.

Гунэфа Фёдараўна назвала цэлы спіс прозвішчаў сваіх выпускнікоў, якія сталі прафесійнымі мастакамі. Дарэчы, многія з іх не забываюць сваіх настаўнікаў, нярэдка наведваюцца ў сцены роднай школы. А што дае жывапіс тым, хто ніколі не звяжа гэты від мастацтва з далейшым сваім лёсам?

— Яны навучацца бачыць гармонію ў акаляючым іх свеце, — гаворыць педагог. У іх будзе развіта пачуццё густу, хіба гэта мала?

У час нашай гутаркі Мацюшэнкава сказала, што першыя крокі ў жывапісу пачынаюцца з таго, што дзяцей вучаць... вадзіць лінію. Гэта так проста і так складана адначасова. А яшчэ дзяцей прымушаюць адмовіцца ад стэрэатыпу, развіваць свае пачуцці.

Гунэфа Фёдараўна расказала, якія цікавыя эксперыменты яна праводзіць з дзецьмі, у час якіх яны вучацца сенсарнаму ўспрыняццю прыроды. Яна пачула пра гэты эксперымент па радыё, знайшла педагога вышэйшай навучальнай установы, якая расказвала пра яго. Дзеці з завязанымі вачыма знаёмяцца з дрэвамі, вывучаюць іх. А потым яны павінны знайсці менавіта "сваё" дрэва. Пасля гэтых урокаў вучні пісалі цудоўныя вершы. Пачыналі лепш усведамляць сваё месца ў гэтым свеце.

Цудоўны і адначасова складаны свет жывапісу сваім выхаванцам адкрываюць таксама выкладчыкі школы Ігар Цітkоўскі, Уладзімір Кожух, Таццяна Лешчанка, Алена Мяцельская на чале з дырэктарам Валерыем Драбеням. Яны дапамагаюць юным талентам знайсці саміх сябе.

Гунэфа Фёдараўна прызналася, што яна — максімаліст па сваёй прыродзе, чалавек вельмі патрабавальны да сябе і іншых. А яшчэ — яна чалавек апантаны, жыве любімай працай. Сама захапляецца габеленам, бацікам. У яе нямала цікавых уласных работ. Але шкадуе, што на ўсё не хапае часу. Ёсць у яе мара — стварыць у горадзе дзіцячую мастацкую галерэю, ёсць нямала іншых цікавых задумак. Застаецца спадзявацца, што яны спраўдзяцца.

**Таццяна ГАЎРУСЁВА.**



Дзевяцікласніца з Крычава Юля Клімянкова шые сабе адзенне модна і прыгожа. Шые яна і лялькам. Яна стварае касцюмы каралеў, прынцэс, воінаў. Дома ў Юлі сапраўдны лялечны тэатр моды.

НА ЗДЫМКУ: Юля Клімянкова і яе лялькі.

**Фота Валерыя БЫСАВА. БЕЛТА.**

Вопыт

# Паспрабуй жа знайсці гэтага сябра

***Сёння, калі якаснае навучанне немагчыма без умення самастойна здабываць і ўзнаўляць веды, у школах часцей пачалі звяртаць увагу на бібліятэчна-інфармацыйную асвету вучняў. Тое, што яшчэ гадоў дзесяць таму здавалася як бы залішнім, не надта істотным, сёння асэнсавана як неабходнейшая ўмова эфектыўнай адукацыі.***

Высветлілася, што вучню трэба даваць веды пра разнастайныя інфармацыйныя крыніцы (як друкаваныя, так і электронныя), сістэму адбору патрэбнай інфармацыі; знаёміць з арганізацыяй фондаў, рэпертуарам бібліятэчных паслуг; вучыць, як скласці спіс выкарыстанай для напісання рэферата літаратуры, знайсці патрэбныя матэрыялы ў адкрытых калекцыях і інш. Усё гэта і многае іншае вучань засвоіць праз сістэму спецыяльных бібліятэчна-бібліяграфічных заняткаў (ББЗ).

На Беларусі гісторыя ББЗ пачалася ў 1976 годзе з пісем Міністэрства адукацыі БССР "Асновы бібліятэчна-бібліяграфічных ведаў вучняў 4-8 кл." і "Пра бібліятэчна-бібліяграфічныя веды малодшых школьнікаў". Праграма была вельмі нядрэнная, але эфекту не дала, бо заняткі не былі ўведзены ў сетку і не ўспрымаліся як абавязковыя.

Праз дзесяць гадоў нават у Мінску даследаванне паказала — каля 90 працэнтаў вучняў не ахоплены ББЗ. І гэта ў сталіцы, дзе акрамя школьных існуе сетка публічных і нават спецыялізаваных дзіцячых бібліятэк!

Па выніках праверкі былі распрацаваны меры, якія дапамаглі выправіць сітуацыю. У раённых аддзелах адукацыі былі падрыхтаваны загады, у адпаведнасці з якімі прадугледжвалася размеркаванне заняткаў паміж бібліятэкамі рознай ведамаснай прыналежнасці. Адбылася спецыяльная нарада намеснікаў дырэктараў мінскіх школ па выхаваўчай рабоце, дзе абмяркоўваліся пытанні арганізацыі ББЗ. Былі падрыхтаваны адпаведныя метадычныя матэрыялы, праведзены семінары, удасканалены формы ўліку. Усе прыкладзеныя намаганні далі магчымасць зафіксаваць амаль поўнае знікненне праблемы ахопленасці дзяцей ББЗ у Мінску.

Але актуальнасць праблемы эфектыўнасці заняткаў не знікае. Распаўсюджанне навейшых педагагічных тэхналогій выклікае неабходнасць якасных змен у бібліятэчна-інфармацыйнай асвеце.

Для эфектыўных ББЗ пажадана наяўнасць якаснага даведачна-бібліяграфічнага апарату, адкрытага доступу да фондаў, электроннага каталога і многіх іншых рэчаў, якімі забяспечана зусім нязначная колькасць школьных бібліятэк. Але ў супрацоўніцтве з публічнымі бібліятэкамі сотні школьных бібліятэкараў сёння праводзяць ББЗ якасна і ў поўным аб'ёме.

Безумоўна, яшчэ сустракаюцца недахоп і нават поўная адсутнасць увагі адміністрацыі да ББЗ, калі заняткі носяць выпадковы характар, праводзяцца непаслядоўна, замяняюцца дадатковымі прадметнымі. Але хочацца адзначыць пазітыўны вопыт, які апошнім часам сустракаецца ўсё часцей. Відавочна пашырэнне тэматыкі і ўдасканаленне форм правядзення ББЗ.

Формы правядзення заняткаў робяцца больш актыўнымі: усё часцей сярод іх сустракаюцца конкурсы, гульні, творчыя праекты і г.д. Узрастае значэнне практычных заданняў, калі размова пра пабудову каталогаў спалучаецца з самастойным пошукам кніг любімага аўтара, першага ці апошняга выдання вывучаемага твора або публікацый па пэўнай праблеме.

Незалежна ад таго, кім праводзяцца ББЗ і дзе, чацвёртая частка Дзённіка школьнай бібліятэкі фіксуе, для вучняў якіх класаў і па якой тэматыцы праводзіліся ББЗ. Адсутнасць базы не можа лічыцца прычынай для невыканання праграмы. У прыватнасці, распаўсюджана практыка тэму перыёдыкі для малодшых падлеткаў раскрываць на базе чытальнай залы дзіцячай бібліятэкі. Калі ў школьнай бібліятэцы адсутнічае сістэматычны каталог, то нехта выкарыстоўвае макет, нехта робіць акцэнт на сістэматычную картатэку артыкулаў, нехта звяртаецца ў бліжэйшую публічную бібліятэку. У выніку вучні атрымліваюць патрэбныя веды і пачынаюць разумець прызначэнне каталогаў, іх пошукавыя магчымасці, віды даведак, за якімі трэба звяртацца да каталогаў, і г.д.

Шкада, што нярэдка сустракаецца і такі пункт гледжання: "Бібліятэка ў нас такая слабая... Якія ж тут бібліятэчныя заняткі, калі яны нікому ў школе не патрэбны!" На жаль, такі настрой часта заахвочвае і сама адміністрацыя, калі адмаўляецца аплачваць правядзенне заняткаў. Недапушчальна, каб ББЗ разглядаліся як няякасныя ўрокі і час на іх правядзенне прапаноўвалася скарачаць, прычым у недапушчальнай форме: "Ну, хвілін за дваццаць раскажыце пра вашы каталогі". Ці ўзнікне ў прафесіянала (а менавіта яны павінны садзейнічаць распаўсюджанню бібліятэчна-інфармацыйнай культуры) жаданне працаваць у такіх умовах?

**Часопіс "Бібліятэка прапануе" публікуе матэрыялы да правядзення бібліятэчна-бібліяграфічных заняткаў у рубрыцы "ББЗ — цікава і эфектыўна".**

Выклікае цікавасць вопыт работы на карысць бібліятэчна-інфармацыйнай асветы вучняў Маскоўскага раёна Мінска. Там па ініцыятыве спецыяліста Маскоўскага раённага аддзела адукацыі Людмілы Варакса быў распрацаваны шэраг мерапрыемстваў па стымуляцыі гэтага накірунку дзейнасці. У выніку быў сабраны і абагульнены лепшы вопыт работы па правядзенні ББЗ сярод бібліятэчных карыстальнікаў.

Часопіс "Бібліятэка прапануе" публікуе матэрыялы да правядзення бібліятэчна-бібліяграфічных заняткаў у рубрыцы "ББЗ — цікава і эфектыўна". У апошніх нумарах прапанаваліся не толькі метадычныя парады па арганізацыі заняткаў, але і сцэнарыі асобных ББЗ з вопыту работы школьных бібліятэк Маскоўскага раёна Мінска. Прадстаўленыя ББЗ маюць інавацыйны кампанент, арыгінальную форму правядзення і ўжо на практыцы паказалі сваю эфектыўнасць.

ББЗ для пачатковай школы былі прадстаўлены экскурсіяй, тэатралізаваным святам для тых, хто ўпершыню запісаўся ў бібліятэку, творчымі заданнямі па тэмах "Выбар кніг у бібліятэцы", "Структура кнігі", "Навукова-пазнавальная літаратура для малодшых школьнікаў" і інш. Цікава, што нават самыя распаўсюджаныя тэмы спецыялісты імкнуліся напоўніць арыгінальным зместам. Узорам такога падыходу могуць лічыцца паказаныя калегам у сярэдняй школе № 154 заняткі па тэме "Твой сябар — кніга". Вынікам цеснага супрацоўніцтва з класнымі кіраўнікамі загадчыцы школьнай бібліятэкі Кацярыны Бураковай стала тое, што ББЗ ператварылася ў сапраўднае свята.

Надзвычай цікавым быў інтэграваны ўрок, праведзены бібліятэкарам і выкладчыцай рускай літаратуры ў сярэдняй школе № 215 па тэме "Крытычная літаратура". Імкнучыся прааналізаваць камедыю рускага драматурга Аляксандра Грыбаедава, вучні дэманстравалі здольнасць якасна працаваць з крыніцамі. Яны граматна вялі дыскусію, пераканаўча фармулявалі сваю пазіцыю. Ці не гэта — найлепшае сведчанне эфектыўнасці ББЗ?

У цесным супрацоўніцтве з адміністрацыяй навучальнай установы працуе бібліятэка гімназіі № 10 (дырэктар Алена Кабаковіч). А загадчыца бібліятэкі гімназіі № 61 Лілія Туруліна нават назвала суаўтарам сваіх заняткаў намесніка дырэктара па навукова-метадычнай рабоце Валянціну Маеўскую. Загадчыца бібліятэкі сярэдняй школы № 39 Ірына Бірыла прадставіла ББЗ, дзе ўдала спалучыліся займальнасць і інфармацыйная насычанасць. Калегі адзначылі надзвычай плённую дзейнасць у накірунку бібліятэчна-інфармацыйнай асветы бібліятэкі сярэдняй школы № 207 і асабіста Надзеі Самусевай.

Прыемна, што дзейнасць лепшых школьных бібліятэк раёна стала не толькі аб'ектам вывучэння, але і сродкам павышэння якасці бібліятэчнай працы ва ўсіх школах раёна.

Вопыт работы школьных бібліятэк Маскоўскага раёна — з'ява, якая заслугоўвае ўвагі.

**Таццяна СЯРГЕЕВА,**
**галоўны бібліятэкар Рэспубліканскай навукова-педагагічнай бібліятэкі.**

Асцярожна: дэструктыўныя секты

# Не памыліцца дзвярыма

***Канец XX стагоддзя адзначаны ростам цікавасці да рэлігіі, узмацнення яе ўплыву на жыццё людзей. Але адначасова з гэтым шырокае распаўсюджванне атрымалі і новыя, так званыя нетрадыцыйныя культы (секты).***

## "Ты павінен выйсці за межы рацыянальнасці"

Традыцыйныя рэлігіі не для ўсіх аказваюцца прымальнымі: для часткі людзей (асабліва гэта датычыцца моладзі) яны выглядаюць залішне кансерватыўнымі, складанымі для ўспрымання, патрабуюць паглыбленай духоўнай работы. Шмат каго адпужвае абрадавасць, незразумелая мова богаслужэння, яго працягласць. Сучасныя адукаваныя людзі спрабуюць спалучыць у сваім светапоглядзе рэлігійныя ідэі з навейшымі гіпотэзамі і нявырашанымі праблемамі навукі. Гэтае іх імкненне, а таксама недастатковую інфармаванасць пра сутнасць неакультаў і недасканаласць айчыннага заканадаўства спрабуюць выкарыстаць прадстаўнікі дэструктыўных сект, якія сёння актыўна спрабуюць наладзіць сваю дзейнасць у краіне.

Большасць дэструктыўных культаў — рэлігійныя, некаторыя з іх могуць маскіравацца пад палітычныя, псіхатэрапеўтычныя, адукацыйныя і камерцыйныя арганізацыі. За іх дзейнасцю хаваюцца непрыкметныя на першы погляд, але зусім канкрэтныя матэрыяльныя інтарэсы канкрэтных людзей.

На Беларусі былі адзначаны спробы дзейнасці наступных дэструктыўных сект:

"Царква аб'яднання" ("Царква Муна");

"Сям'я" ("Дзеці Бога");

"Ліга духоўнага адраджэння Санатана Дхарма";

"Аум Сенрыкё";

"Царква вучняў Ісуса Хрыста";

"Багародзічны цэнтр" (Марыянскі рух царквы Белай святой Русі");

"Царква апошняга запавету" (Вісарыёна);

"Сатаністы";

"Ахмадыя";

"Белае брацтва";

"Саенталагічная царква";

"Грамадства адзінства духоўных культур "Адраджэнне" і грамадства ведычнай культуры "Гаўрынга".

Дэструктыўнымі яны прызнаныя таму, што выкарыстоўваюць неэтычныя методыкі маніпулявання ў адносінах да сваіх прыхільнікаў, дэманструюць намер кантраляваць іх думкі, пачуцці і паводзіны з мэтай поўнага іх падпарадкавання лідэру.

Механізм залучэння і ўтрымання чалавека ў такой секце з'яўляецца адзіным для ўсіх таталітарных культаў. Падчас першых сустрэч вы не даведаецеся ні іх сапраўдных намераў, ні адносін да традыцыйных веравання. Пра запрошанага клапоцяцца, скіроўваюць на яго ўвагу так, каб ён адчуў поўную зацікаўленасць культыстаў у вырашэнні ўсіх тых праблем, якія яго хвалююць. У выніку такога падыходу, а таксама пастаянных сумесных малітваў і духоўных песнапенняў, бесперапынных стасункаў з членамі секты ў чалавека паступова знікае здольнасць крытычна ўспрымаць вучэнне секты. Далей працягваецца і ўрэшце завяршаецца разрыў папярэдніх сацыяльных сувязяў. Секты дамагаюцца татальнага кантролю не толькі над свядомасцю і мысленнем чалавека, але і над ладам яго жыцця. Адэпт секты практычна цалкам разрывае з папярэдняй работай, сям'ёй, захапленнямі. Ён ужо не ў стане крытычна ацэньваць акаляючую рэчаіснасць, у яго паяўляецца варожасць у адносінах да тых людзей, якія не з'яўляюцца членамі секты. І нават калі родныя адэпта дэструктыўнага культу альбо іншыя людзі спрабуюць "пасеяць" у яго сумненні ў рэлігійнай дактрыне, якую яму навязалі, ён адвяргае іх як праяўленне волі д'ябла, бо з цягам часу пачынае баяцца нават падумаць пра самастойнае жыццё па-за сектай.

## "Удар любоўю" ("Love — bombing")

Сацыяльны склад нетрадыцыйных рэлігійных аб'яднанняў, плыняў, культаў і сект даволі спецыфічны. Большасць іх прыхільнікаў — моладзь ва ўзросце да 25 год, галоўным чынам навучэнцы, студэнты, інжынерна—тэхнічная, навуковая і творчая інтэлігенцыя.

Заманьванне падлеткаў у дэструктыўныя секты адбываецца з улікам ведання іх псіхалогіі і адпаведных рэакцый у паводзінах. Гэта, перш за ўсё, рэакцыі эмансіпацыі, якія праяўляюцца ў імкненні да свабоды ад апекі і кантролю, да незалежнасці ад бацькоў. Вярбоўшчыкі, залучаючы моладзь у секту, распальваюць варожыя адносіны да бацькоў, спрабуюць стварыць трэшчыну ў сям'і, а затым унушаюць і выхоўваюць адмоўныя адносіны да ўсіх, хто не ўваходзіць у секту.

Для падлеткаў, асабліва хлопчыкаў, характэрна таксама рэакцыя групавання з равеснікамі, патрэба (амаль на ўзроўні "статкавага" інстынкту) ў кантактах менавіта з імі, а не з дарослымі. Хлопчыкі-падлеткі схільныя да стварэння груп, іншы раз з асацыяльнымі паводзінамі, якія маюць свайго лідэра. Такім лідэрам і імкнецца стаць прапаведнік з секты. У групах маецца свая сімволіка, якая захапляе падлеткаў: мянушкі, свая "мова", рытуалы, абрады тыпу "братання крывёю" і інш. Стасункі ў секце заўсёды суправаджаюцца вялікім эмацыянальным накалам і "дзякуючы" гэтаму падлеткі часта становяцца абыякавымі да ўсяго астатняга, закідваюць вучобу ці працу.

Пэўны інтарэс у прадстаўнікоў секты выклікаюць і так званыя эгацэнтрычныя захапленні, уласцівыя часткі падлеткаў, — быць у цэнтры ўвагі, прыцягваць незвычайнасцю, экзатычнасцю сваіх паводзін. Такія падлеткі могуць захапляцца экстравагантным адзеннем, дэманстраваць зацікаўленасць прадметамі старажытнасці альбо моднай філасофскай плынню. На гэтай глебе магчыма і захапленне экзатычнай "новай рэлігіяй", якая не мае культурнага адзінства з гістарычна ўсталяванымі на радзіме каштоўнасцямі. Умела выкарыстоўваецца некаторымі сектамі і гіперсексуальнасць падлеткаў (напрыклад, ідэолагі секты "Сям'я" заахвочваюць ранняе ўступленне ў палавое жыццё і выпадковыя палавыя кантакты). І, як правіла, на першым этапе вярбоўшчыкі ўсіх сектаў выкарыстоўваюць "удар любоўю", гэта значыць мэтанакіраваную спробу ўцягнуць патэнцыяльную ахвяру ў гутарку, праяўляючы пры гэтым асаблівы клопат пра субяседніка і дэманструючы агульнасць інтарэсаў. Вярбоўшчыкі ўсімі спосабамі падкрэсліваюць здольнасці і неардынарнасць чалавека, якога спрабуюць залучыць у секту, устанаўліваюць і падтрымліваюць цесны эмацыянальны кантакт з ім. Калі вярбоўшчык вопытны і ўмелы, то гэтая тактыка дзейнічае амаль безадказна, асабліва ў дачыненні да падлеткаў.

## Прафілактыка

Прафілактыка ўздзеяння дэструктыўных неакультаў на псіхіку чалавека павінна будавацца, перш за ўсё, на ведах пра тое, што сабою ўяўляюць гэтыя арганізацыі, якія яны маюць мэты і хто іх кіраўнікі. Трэба заўсёды ўдакладніць, што хаваецца за шыльдай арганізацыі, якую вам настойліва прапануюць наведаць. Напрыклад, секта Муна дзейнічала пад прыкрыццём такіх арганізацый як "Жанчыны ў барацьбе за мір", "Студэнцкая арганізацыя Сагр" і інш.

Усе, асабліва маладыя людзі, павінны мець дакладнае ўяўленне пра псіхатэхналогіі, якія выкарыстоўваюцца ў сектах. Тых, каго вярбуюць, і іх родных, павінны насцярожыць наступныя моманты: строгая вегетарыянская дыета; заахвочванне да абмежавання даўжыні сну; фарміраванне непрыязных адносін да бацькоў і родных; пільны кантроль за паводзінамі.

Бацькі павінны быць у курсе інтарэсаў і захапленняў сваіх дзяцей, аказваючы ім неабходную падтрымку, асабліва ў цяжкі падлеткавы перыяд, калі з-за няўстойлівасці характару дзеці лёгка паддаюцца чужому ўплыву.

**Падрыхтавала**
**Святлана СУБОЦІНА.**

# Школе патрэбны рэлігіязнаўцы

***Пытанні духоўнага развіцця ў апошні час набываюць усё большую актуальнасць. Рэлігія, якая запаўняе вакуум у пытаннях духоўнасці, пачынае займаць адпаведнае месца ў жыцці грамадства. Аднак праблемы ва ўзаемінах з царквой, выкліканыя працяглым перыядам абмежавання ў грамадстве яе ўплыву, яшчэ захоўваюцца. Сёння неабходна стварыць "пераходны мост", які дасць магчымасць людзям, выхаваным у атэістычных традыцыях, прыйсці да сапраўднага разумення духоўнасці і маральнасці.***

**Сёння вельмі актуальнымі становяцца пытанні процідзеяння ўплыву дэструктыўных сектаў на моладзь.**

Выклікае трывогу і заклапочанасць уцягненне часткі моладзі ў сферу дзейнасці дэструктыўных сектаў, псеўдакультаў і неарэлігійных структур, якія часам дзейнічаюць пад выглядам грамадскіх арганізацый. У гарадах Гомельскай вобласці (Светлагорск, Рэчыца, Добруш, Мазыр) у розныя перыяды былі зафіксаваны злачынныя дзеянні, нават забойствы, учыненыя сатаністамі. На жаль, недахоп інфармаванасці і разумення грамадскай небяспекі гэтых сектаў прыводзіць да таго, што многія навучальныя ўстановы бяздзейнічаюць і не прымаюць аніякіх мер па спыненні іх работы ў маладзёжным асяроддзі.

Вось чаму пытанні духоўна-маральнага выхавання школьнікаў уключаюцца ў змест вучэбных заняткаў на курсах павышэння кваліфікацыі, у міжкурсавы перыяд дзейнасці Гомельскага абласнога інстытута павышэння кваліфікацыі. У студзені 2001 года на базе сярэдняй школы № 5 Гомеля быў праведзены семінар для інспектараў аддзелаў адукацыі, метадыстаў раённых і гарадскіх метадычных кабінетаў, якія курыруюць выхаваўчую работу, намеснікаў дырэктараў школ па выхаваўчай рабоце "Выкарыстанне духоўна-маральных каштоўнасцей рэлігійнага светапогляду і процідзеянне ўплыву дэструктыўных сектаў".

Рэлігійная сітуацыя на сённяшні дзень у нашай краіне і, у прыватнасці, у Гомельскай вобласці была прааналізавана прафесарам кафедры філасофіі і гуманітарных праблем адукацыі Акадэміі паслядыпломнай адукацыі Мінска М.Т.Аўсяевічам і дацэнтам кафедры беларускай культуры ГДУ імя Ф.Скарыны В.А.Адзіночанкам. Паводле іх слоў, сёння на тэрыторыі вобласці дзейнічаюць 154 праваслаўныя царквы, 129 хрысціянскіх абшчын пратэстанцкага толку, 19 рымска-каталіцкіх прыходаў, 5 іудзейскіх абшчын, 2 стараверскія царквы, 2 нехрысціянскія арганізацыі ўсходняй накіраванасці: абшчына Свядомасці Крышны і Бахаі. Рэлігія часта становіцца панацэяй ад усіх бед, апорай у цяжкім жыцці. Хаця, на жаль, многае, што здаецца духоўнасцю, мае толькі яе вонкавую абалонку.

Па праблемах узаемінаў дзяржавы і царквы, процідзеяння ўплыву дэструктыўных сект выступілі старшыня савета па справах рэлігіі і нацыянальнасцей Гомельскага аблвыканкама В.В.Кляўцоў і член савета В.С.Трошка. Яны адзначылі, што апошнімі гадамі над моладдзю навісла пагроза масавага ўцягнення ў нетрадыцыйныя рэлігійныя культы. Любая рэлігія мае вострую патрэбу ў прытоку прыхаджан як залогу яе будучыні. Таму аб'ектам асаблівай увагі новых рэлігійных плыняў з'яўляецца моладзь. У юнацкім узросце з асаблівай вастрынёй паўстае праблема пошуку сэнсу жыцця і духоўнага настаўніка. На жаль, значная частка бацькоў не ў стане правільна зразумець і задаволіць духоўныя запыты сваіх дзяцей, і дзеці вымушаны шукаць адказу па-за сям'ёй. Досыць часта юнацкая неабачлівасць прыводзіць да рэлігійнага тупіка. Метады ўздзеяння неакультаў на падсвядомасць негатыўна адбіваюцца на псіхіцы, выклікаючы псіхічныя расстройствы, разбураюць увогуле асобу чалавека. Паводле даных прафесара кафедры псіхіятрыі Мінскага медыцынскага універсітэта А.І.Скугаравай, якая назірала амбулаторна і ва ўмовах клінічнай псіхіятрычнай бальніцы 94 чалавекі, якія падпалі пад апрацоўку дэструктыўных сектаў, 88 працэнтаў іх складаюць падлеткі і маладыя людзі. Амерыканскія псіхолагі апісваюць у ахвяр рознага роду неакультаў сіндром, які ўключае ў сябе тры абавязковыя кампаненты: падман, залежнасць, страх. Падлетак, трапляючы ў секту, па-за ёю адчувае сябе бездапаможным, няздольным прымаць самастойныя рашэнні; ён гатовы выканаць любыя ўстаноўкі свайго "духоўнага настаўніка".

Гэтаму можна супрацьпаставіць узмацненне ролі праваслаўя ў духоўным жыцці дзяцей і падлеткаў. Ігумен праваслаўнай царквы Андрэй Кравіцкі лічыць: "Неабходна фарміраваць у школьнікаў хрысціянскую культуру, любоў да гісторыі сваёй Айчыны. Тады моладзь будзе з большай павагай ставіцца да культуры свайго народа, нацыянальных традыцый. Неабходна ўзмацніць работу па стварэнні сістэмы рэлігіязнаўчай падрыхтоўкі вучняў".

Пра гэта ж — духоўна-маральнае выхаванне праз вывучэнне Біблії ў школе — гаварылі і іншыя ўдзельнікі семінара.

Сярод выкладчыкаў сёння даволі шмат людзей веруючых. Будучы перакананымі ў сапраўднасці прынятага імі веравызнання, яны актыўна ўдзельнічаюць у рабоце рэлігійных абшчын і лічаць абавязкам і правам несці сваю веру вучням. Але іх вера — гэта іх выбар. Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь і Закон "Аб свабодзе веравызнанняў і рэлігійных арганізацый", Закон "Аб адукацыі Рэспублікі Беларусь" указваюць на правa кожнага чалавека ажыццяўляць свабодны выбар рэлігіі.

Задача сям'і і школы — расказаць дзецям і падлеткам пра асноўныя сусветныя рэлігіі і вызначыць паводзіны вучняў у дачыненні да нетрадыцыйных неарэлігійных плыняў, сектаў, якія часта выкарыстоўваюць цікавасць моладзі да праблем светабудовы і схільнасць да самапазнання.

Падводзячы вынікі семінара, начальнік аддзела выхаваўчай работы абласнога ўпраўлення адукацыі Л.А.Воінава засяродзіла ўвагу на ролі школы і пазашкольных устаноў вобласці ў арганізацыі пазаўрочнай занятасці дзяцей і падлеткаў як неабходнага аспекту духоўна-маральнага выхавання.

Па выніках работы семінара было прынята рашэнне аб правядзенні Гомельскім абласным ІПК курсавой падрыхтоўкі рэлігіязнаўцаў з ліку педагагічных работнікаў на базе вышэйшай адукацыі з прыцягненнем спецыялістаў у галіне рэлігіязнаўства гарадскіх ВНУ, савета па справах рэлігій і нацыянальнасцей аблвыканкама. Былі вызначаны канкрэтныя тэрміны: чэрвень 2001 — красавік 2002 гг.

**Людміла КАБКОВА,**
**метадыст аддзела кіруючых кадраў і рэгіянальнага развіцця адукацыі Гомельскага абласнога ІПК.**

